# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №11 (116)
ЛІПЕНЬ 2020 ГОДА**


КАМПАНІЯ 2020

## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ВЫБАРЫ?

**Старшыня Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Канстанцін Смолікаў — адзіны апазыцыйны прадстаўнік, улучаны ў склад Віцебскай абласной камісіі па выбарах прэзыдэнта краіны.**

У склад абласной камісіі **Кастусь Смолікаў** увайшоў ужо ў другі раз. Упершыню такое адбылося ў 2015 годзе. Ён мяркуе, што сёлета яго ўключылі ў склад камісіі, бо свайго прадстаўніка не вылучала партыя «Справядлівы сьвет».

У 2015 годзе пры падвядзеньні вынікаў ён выказаў сваё асабістае меркаваньне пра тое, што выбары нельга прызнаць ані свабоднымі, ані справядлівымі. Для сябраў абласной камісіі гэта сталася поўнай нечаканасьцю. Пасьля гэтага ў склад абласной камісіі на мясцовых выбарах і выбарах у парлямэнт яго больш ня бралі. Таму сёлетняе ўключэньне сталася пэўнай нечаканасьцю.

Як кажа Смолікаў, стасункі паміж сябрамі камісіі склаліся працоўныя, нэўтральныя — кожны займаецца сваёй працай. Усе адно аднаго ведаюць, бо склад камісіі з году ў год застаецца амаль нязьменны. Ад 2015-га ў складзе камісіі зьявіліся толькі трое новых сябраў.

*«Праца ў абласной камісіі — выключна тэхнічнай скіраванасьці, уплыву на ходу выбараў яна не аказвае. Рэальнай працы ў абласной камісіі амаль няма, яе сябры дзяжураць ды рэгіструюць уваходную дакумэнтацыю»,* — расказвае Кастусь Смолікаў.

*«Але цікава, што ў камісіі існуе асоба, якая штодня дзяжурыць толькі ў першай палове дня. І таму іншыя сябры камісіі ня маюць магчымасьці праглядаць атрыманыя за час дзяжурства акты, пратаколы падліку галасоў і іншыя матэрыялы з раёнаў. Атрыманыя лісты мусяць быць падшытыя ў тэчцы ўваходных дакумэнтаў, але іх там няма. Яны захоўваюцца ў сэйфе, да якога маюць доступ сакратар камісіі і старшыня, а мо нават і старшыня ня мае. Асабіста я маю доступ толькі да той дакумэнтацыі, якая трапіла ў камісію за час майго дзяжурства»,* — тлумачыць наш суразмоўца.

«Нядаўна адбылося непасрэднае парушэньне заканадаўства, адназначна прапісанае ў выбарчым кодэксе. Па скаргах штабу і сябраў ініцыятыўнай групы Бабарыкі на дзеяньне раённай камісіі аб непрызнаньні шэрагу подпісаў сапраўднымі мусілі зьбірацца сябры абласной камісіі, але гэтым разам яе старшыня даў адказ аднаасобна. Цяпер юрысты Бабарыкі з нагоды парушэньня працэдуры разгляду будуць падаваць на дзеяньні старшыні камісіі ў суд.

Я таксама зьвяртаўся з просьбай па дазвол на прагляд падпісных лістоў у раённых камісіях. Па гэтым пытаньні мусіла быць прынятае калегіяльнае рашэньне, але адказ старшыня камісіі і гэтым разам даў адказ аднаасобна. Магчыма, з гэтай нагоды буду пісаць у ЦВК і скардзіцца на дзеяньні кіраўніка», — распавядае Смолікаў.

«Статус сябра абласной камісіі дазваляе выказваць сваё меркаваньне, даелегальную магчымасьць наведваць выбарчыя ўчасткі, правяраць наяўную там дакумэнтацыю, прысутнічаць пры падліку галасоў, бачыць вынікі галасаваньня.

У 2015 годзе мой статус дазволіў мне прысутнічаць на адным з участкаў Чыгуначнага раёну і бачыць, колькі выбарцаў рэальна прагаласавалі за апазыцыйную кандыдатку Тацяну Караткевіч.».

«Участковай камісіі загадзя даводзяцца патрэбныя лічбы пратаколу. Калі нешта пайшло ня так і ўчастковая камісія ня здолела падагнаць пад патрэбныя адсоткі, падчыстка адбудзецца на ўзроўні раённых камісіяў. Так зазвычай усё атрымліваецца.

Абласная камісія проста зацьвярджае лічбы, якія ўжо падчышчаны».

«Я б адзначыў большую закрытасьць. Раней шмат інфармацыі было на сайтах. Падавалася, хто вылучае ў абласную камісію. Цяпер гэтага няма. Інфармацыя падаецца неяк прыхавана, не адразу кідаецца ў вочы на сайце. Такое ўражаньне, што гэта зроблена адмыслова, каб у людзей былі цяжкасьці з пошукам. Менш стала лічбавай інфармацыі.

Сёлета, мне падаецца, у яе прыўладных удзельнікаў адчуваецца нейкі мандраж, нейкае нядобрае прадчуваньне таго, што гэтыя выбары могуць пайсьці ня так, як зазвычай. Заўважная пэўная напружанасьць, хаця, здаецца, выбары ідуць, як заўсёды.

Калі б на пачатку праймэрыз старая апазыцыя адчула, што настроі насельніцтва і выбаршчыкаў памяняліся, што трэба працаваць на перамогу — была б зусім іншая кампанія. Калі б праймэрыз даў адзінага кандыдата, то ён не згубіўся б у шэрагах Ціханоўскага і Бабарыкі, дый вынікі былі б адпаведныя.

Я лічу, 200-250 тысячаў за адзінага кандыдата сабралі б лёгка, а так да пачатку кампаніі вырашылі, што яна прайграная», — падзяліўся сваім меркаваньнем Кастусь Смолікаў.

**С.Горкі**
**«Віцебская Вясна»**



ПАДАТАК

## «ДАРОЖНЫ ПАДАТАК» У КОШТ ПАЛІВА?

**Адвязаць дзяржпошліну ад тэхагляду ўлады абяцаюць ужо ў бліжэйшы час. Але, мяркуючы па словах міністра транспарту і камунікацый Аляксея Аўраменкі, да гэтага часу няма канчатковага рашэння, як менавіта гэта зрабіць.**

*— Трэба адвязваць збор ад тэхагляду, і ён будзе адвязаны. Цяпер вось як раз рыхтуюцца праекты і ідуць бурныя дыскусіі: якая павінна быць сістэма ўключэння ў паліва або кантроль з дапамогай відэафіксацыі?* — распавёў у эфіры СТВ міністр транспарту і камунікацый **Аляксей Аўраменка**. *— Я думаю, у бліжэйшы час будзе прынята канчатковае рашэнне і тэма прывязкі да тэхагляду сыдзе.*

Варта сказаць, што за некалькі дзён да гэтага намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір Кухараў** заявіў, што «нарматыўныя дакументы ўжо гатовыя, рашэнне будзе прынята ў бліжэйшы час».

Нагадаем, так званы дарожны падатак увялі ў 2014 годзе. Цяпер яго трэба аплачваць адразу за ўвесь перыяд дазволу на допуск да руху — гэта значыць да наступнага ТА. Для новых аўтамабіляў гэты тэрмін складае 2 гады. З-за таго, што аплачваць адразу трэба вялікія сумы, грамадзяне проста пачалі масава ігнараваць тэхагляд. Па самых сціплых ацэнках «Белтэхагляда», рабілі так каля 50 адсоткаў кіроўцаў.

У студзені 2019 года Мінфін падрыхтаваў і вынес на грамадскае абмеркаванне праект новага ўказа. Па ім меркавалася, што плаціць збор можна будзе нават памесячна. Чым больш перыяд аплаты, тым менш сума збору. Максімальны тэрмін меркаваўся 1 год. Кантроль за выплатай планавалася ажыццяўляць з дапамогай камер фотафіксацыі: тыя, хто не аплаціў, атрымлівалі б «лісты шчасця», аналагічныя тым, што прыходзяць за перавышэнне хуткасці.

Спачатку адвязку дзяржпошліны ад ТА абяцалі з 1 красавіка 2019 года, затым — з 1 ліпеня, потым з 1 студзеня 2020-га. Аднак дакумент так і не быў падпісаны.

Разглядаў урад і варыянт уключэння збору ў кошт паліва, але ён не знайшоў падтрымкі. Уключэнне плацяжу ў кошт паліва непазбежна прывяло б да росту коштаў на яго, што разагнала б інфляцыю з усімі вынікаючымі наступствамі, аргументаваў такую пазіцыю Мінфін. Акрамя таго, **ад выплаты дзяржпошліны вызвалены будаўнічая і сельгастэхніка** — а ў выпадку ўключэння плацяжу ў кошт паліва неадкладна пачнуцца спробы галіновага лабіравання ільготных коштаў на паліва, што паспрыяе росквіту шэрых схемаў.

У пачатку сакавіка гэтага года міністр транспарту і камунікацый Аляксей Аўраменка распавёў аб апошняй рэдакцыі праекта. Але і пасля гэтага падпісання не было.

Нядаўна кіраўнік дзяржавы падпісаў распараджэнне «Аб дадатковых мерах па вырашэнні актуальных пытанняў жыццядзейнасці насельніцтва», у яго ўвайшлі пытанні, на якія скардзіліся грамадзяне, якія аддалі подпісы за Лукашэнку.

Адным з пунктаў у спісе было вырашэнне пытання з адвязкай дзяржпошліны ад тэхагляду.

**tut.by**

СВЯТА

## КУПАЛЛЕ Ў МАЗАЛАВА

**Распачалося свята з тэатралізаванай купальскай дзеі з удзелам вядомых народных калектываў — ансамбля песні і музыкі «Вераснянка» і жаночага клуба «Залаты ўзрост». Не абышлося без удзельнікаў тэатральнага калектыву «Вобраз».**

Разынкай свята народнага календара стаў конкурс на лепшы купальскі вянок, дзе перамогу атрымала мясцовая жыхарка Анастасія Навуменка (дарэчы, сплесьці вянок дапамагог ёй сын Уладзіслаў).

Каб знайсці чароўную папараць-кветку, арганізатары мерапрыемства падрыхтавалі для ўдзельнікаў розныя прыгоды і выпрабаванні – гульні, спевы, конкурсы. Па выніках творчых спаборніцтваў папараць-кветка аказалася ў Вікторыі Карэлінай.

Скончылася мерапрыемства карагодам побытавых танцаў, у які пусціліся як артысты, так і гледачы – усе ўдзельнікі свята.

**Андрэй Струнчанка**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

COVID-19

# СМЕРТЬ ОТ ПНЕВМОНИИ С КОРОНОЙ

**По словам родных, до этого директор Витебской районной племстанции Татьяна Симанкович ничем серьезным не болела, вела здоровый образ жизни, занималась фитнесом, любила свою работу и строила много планов на жизнь.**

«8 мая у меня родился сын. И мама, которая сильно ждала внука, так и не смогла его увидеть: в это время она лежала на аппарате ИВЛ. Через неделю, 15 мая, ее не стало. Я еще не оправилась после родов и даже не смогла быть на похоронах», — рассказывает TUT.BY Дарья, дочь Татьяны.

В апреле в Витебске практически каждый день шли новости о все новых и новых жертвах коронавируса. И первое, что сделала Татьяна Симанкович, — позаботилась о единственной дочери, которая находилась тогда на девятом месяце беременности.

— Мама родом из Глубокого. И когда стало понятно, что в Витебске — серьезная эпидемия, она решила отправить нас с мужем в Глубокое. Говорила: «Там тихо, уезжайте туда, нужно сберечь тебя и ребенка». И мы уехали 16 апреля. Получается, маму я последний раз видела накануне, 15 апреля, — рассказывает Дарья Науменок.

А через неделю, 24 апреля, Татьяна позвонила дочери и рассказала, что у нее температура — 37,2.

— 25-го мама обратилась в поликлинику, но больничный ей не дали, так как на входе в медучреждение ей измерили температуру и термометр показал 36 градусов. Уже после выходных, 27 апреля, мама снова пошла в поликлинику. На этот раз ей открыли больничный. Однако флюорография и анализы ничего плохого не показали. И медики отправили маму домой. После четырех часов в очереди в поликлинике она чувствовала слабость, села в машину, но поехать домой смогла не сразу, а через время, придя в себя.

Почти неделю Татьяна болела дома. Температура «прыгала» от 37 до 38. В субботу, 2 мая, ее подруга Наталья забила тревогу и вызвала скорую.

— Маму забрали в 1-ю городскую больницу. Выяснилось, что у нее двусторонняя пневмония. Давали антибиотики, которые, возможно, маме не шли. Ей становилось хуже, открылась рвота, мама даже не могла говорить. На жалобы врач отвечал: «Здесь всем плохо». В лечении два дня ничего не меняли.

В понедельник, 4 мая, пациентку перевели в витебскую больницу скорой медпомощи.

— Поначалу мама лежала под кислородной маской, а потом — под аппаратом ИВЛ. Тест на коронавирус показал положительный результат. Через 10 дней, 15 мая, мама умерла. Организм, к сожалению, не справился, хотя врачи в БСМП делали все, что только могли.

Ровно за неделю до смерти матери, 8 мая, у Дарьи родился сын.

— Но мама даже не узнала, что я родила, — молодая женщина не может говорить об этом без слез. — А мама так ждала внука, хотела его нянчить, водить на прогулки, а еще мечтала поехать с ним на море… Но так получилось, что даже не узнала о том, что уже стала бабушкой.

Дочь не смогла быть на похоронах матери:

— В тот день я еще не оправилась после родов, была слабой. И на руках ребенок, которому только неделя. Хоронили маму в закрытом гробу. Я очень благодарна подруге мамы Наталье: на ее плечи легла организация похорон, так как я не могла тогда этим заниматься.

Дарья говорит, что ее мама не имела хронических болезней, следила за собой и здоровьем.

— Она ходила на фитнес и в бассейн. Незадолго до болезни мама прошла полное обследование, и медики пришли к выводу, что она здорова. 49 лет — это цветущий, замечательный возраст. Казалось, впереди еще столько прекрасного! Но случилось вот так… Поэтому неправда, когда говорят, что от коронавируса умирают лишь люди с хроническими заболеваниями.

Татьяна Симанкович окончила ветакадемию в Витебске. Затем более 20 лет отработала в АПК. В марте 2019 года получила Почетную грамоту Министерства сельского хозяйства и продовольствия.

**Татьяна Матвеева**
**TUT.BY**

ЗДАРЭННІ

# ГНОЙ З ФЕРМЫ Ў РЭЧЦЫ

**На першасных ачышчальных збудаваннях фермы адбыўся «размыў абвалавання чэка-назапашвальніка», удакладняе МНС. У выніку гнаявая жыжка трапіла ў меліярацыйны канал, а затым — у раку Суходроўку, пасля ў Лучосу і магчыма дасягнула Дзвіны.**

Здарылася гэта 5 ліпеня на ферме сельгаспрадпрыемства «Ліпаўцы» каля вёскі Кузменцы Віцебскага раёна, паведамляе МНС.

Прарыў вала засыпалі, перацяканне ў меліярацыйны канал гнаявой жыжкі спынілася.

Колькі гною вылілася ў раку, не ўстаноўлена. Мору рыбы ў Суходроўцы не назіраецца, паведамляе МНС.

Спецыялісты абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўзялі пробы вады для аналізаў. Іх вынікі будуць вядомыя толькі 10 ліпеня.

**А.Адамаў**

# МИНЫ И СНАРЯДЫ ВМЕСТО ВЕНИКОВ

**На боеприпасы наткнулся в лесу возле деревни Еремино Витебского района мужчина, который заготавливал веники для бани. В годы войны в этих местах проходили крупные бои.**

Сельчанин набрал в телефоне номер 102 и рассказал о своей находке, сообщает милиция региона.

Саперы обнаружили 30 минометных мин калибра 81 мм, 7 артиллерийских снарядов калибра 75 мм, 7 гранат Ф-1 и 2 гранаты РГ-42. Боеприпасы уничтожили.

Похожий случай произошел в конце июня в Витебском районе возле деревни Макарово: здесь супружеская пара собирала на поле цветы и обнаружила боеприпасы: 34 артиллерийских снаряда калибром 105 мм и 6 артиллерийских взрывателей.

Милиция напоминает: находки военных лет несут серьезную угрозу жизни и здоровью. Если вы обнаружили боеприпасы, сразу же сообщите об этом по телефону 102.

**tut.by**

ПАДМАН

# ЖЕРТВА МОШЕННИКОВ

**33-летняя жительница Витебского района стала жертвой мошенников, которые предложили ей заработать на криптовалюте. Об этом сообщили в УВД Витебского облисполкома.**

В одной из социальных сетей предпринимательница из Витебского района наткнулась на объявление о возможности получения дохода за счет меняющегося курса биткоина. Чтобы стать полноправным участником команды виртуальных брокеров, пострадавшая создала на мошенническом сайте личный кабинет и пополнила лицевой счет на 150 долларов.

Вскоре интернет-платформа исчезла из виртуального пространства. Вернуть вложения бизнесвумен не удалось. По данному факту возбуждено уголовное дело.

КРЫМІНАЛ

# ПОЙМАЛИ ХАКЕРОВ

**Дело 19-ти летнего жителя Витебского района и 41-летнего жителя Поставского района передано в суд — они взламывали аккаунты пользователей и продавал информацию.**

Оба фигуранта использовали для этого «вредоносные программы», которые скачали в интернете. Эти программы подбирали пароли в автоматическом режиме, а получив доступ к взломанному аккаунту собирали всю важную информацию — о денежном балансе, банковских платежных карточках.

Скопированную таким образом информацию хакеры продавали на специализированных форумах даркнета. При этом по заявлению следственного комитета, особой ценностью считались аккаунты игровых ресурсов, на которые всегда был хороший спрос, и они быстрей всего продавались.

Правоохранители подсчитали, что злоумышленник из Поставского района смог получить несанкционированный доступ 30 аккаунтам, а житель Витебского района — более чем к 35.

Обоим фигурантам предъявили обвинения по части 1 статьи 354 (заведомое использование компьютерных программ с целью несанкционированного копирования информации, хранящейся в компьютерной системе, сети и на машинных носителях) и части 2 статьи 349 (несанкционированный доступ к компьютерной информации) УК, сообщает пресс-служба Следственного комитета.

Расследование уголовных дел завершено, их передали прокурору для направления в суд, которого обвиняемые будут дожидаться под подпиской о невыезде.

**news.vitebsk.cc**

ЭКАЛОГІЯ

# ШТРАФ ЗА МУСОР В ЛЕСУ

**Эффективным методом борьбы с нарушителями лесного и природоохранного законодательства является использование средств фото- и видеофиксации.**

Снимки с фотоловушек являются серьезной уликой против правонарушителей. В объектив попадаются те, кто оставляет килограммы бытового мусора на съездах в лес, граждане, ведущие незаконную вырубку и кражу готовой древесины, а также люди, отдыхающие в лесах в период запрета на их посещение.

Так, в начале мая в 121-м квартале 17-й выдел Летчанского лесничества ГЛХУ «Витебский лесхоз» в объектив одной из многочисленных установленных фотоловушек попал житель Витебска, вывозивший бытовой мусор в лес.

На гражданина наложено административное взыскание в виде штрафа по статье 15.30 Кодекса об административных правонарушениях Республики Беларусь. К слову, данное нарушение влечет предупреждение или наложение штрафа в размере до 20 базовых величин, на индивидуального предпринимателя — до 50-ти, на юридическое лицо — до 300 БВ.

В связи с установившейся сухой погодой сотрудники лесхоза напоминают, что за нарушение требований пожарной безопасности в лесах или на торфяниках либо запрета на их посещение грозит административная ответственность, предусмотренная частью 1 и 2 статьи 15.29 КоАП Республики Беларусь, в размере до 1350 рублей (50 базовых величин).

Действующий класс пожарной опасности в лесах Витебского района можно узнать на сайте ГЛХУ «Витебский лесхоз» либо по телефону 24-01-33.

**Елена Чаплева**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

## АБ'ЯВА

*Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.*

*Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".*

*Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ШТО Ў ГАЛАВЕ Ў ЛУКАШЭНКІ?

**Галоўны герой маёй «Азбукі паліталогіі» пастаянна папаўняе свой слоўнікавы запас. Інакш статус адзінага палітыка не ўтрымаць, бо «хто не гаворыць, той слухае, а хто слухае, той слухаецца».**




Выдатная думка. Жывы прыклад адзінства формы і зместу. Яе аўтар — **Уладзіслаў Суркоў**. У сваім уменні ісці ад жыцця ён, мабыць, не саступіць адзінаму палітыку (АП). Суркоў служыў у ГРУ, працаваў токарам, кіраваў самадзейным тэатрам і дакіраваўся да пасады памочніка прэзідэнта РФ.

Але я адышоў ад тэмы. Слоўнікавы запас АП за апошнія месяцы папоўніўся дзеясловам «хайпіць» (ад англійскага назоўніка «hype», які азначае агрэсіўную і дакучлівую рэкламу, мэтай якой з'яўляецца фарміраванне густаў і ўпадабанняў спажыўца).

У працэсе асваення новага слова мой герой надаў яму негатыўную канатацыю і тут жа кінуў на пярэдні край ідэалагічнай барацьбы, каб дыскрэдытаваць нашы старыя знаёмыя словы — «інтэрнэт» і «апазіцыя». Абмяжуюся адным прыкладам: «Хтосьці хайпуе, хтосьці яшчэ нешта робіць у інтэрнэце. Наша справа — працаваць. Пройдзе крыху часу, і людзі ацэняць і зразумеюць, хто чаго варты» (3 красавіка, рабочая паездка ў Смалявіцкі раён Мінскай вобласці).

«Мова ёсць дом быцця», — справядліва заўважыў нямецкі філосаф Марцін Хайдэгер. З гэтага вынікае, што для чалавека сапраўды існуе толькі тое, што можа быць апісана словамі. З гэтага гледзішча я і прапаную перачытаць выказванне АП. Пажадана зрабіць гэта двойчы.

**Такі вось узровень грамадзянскай адказнасці**

Свет АП — гэта класічны чорна-белы свет. Усіх, каму выпала шчасце існаваць у гэтым свеце, ён дзеліць на тых, хто працуе, і тых, хто хайпуе ў інтэрнэце. Аддзяліць адных ад другіх — задачка на першы погляд руцінная, але толькі на першы погляд. Калі ж прыгледзецца больш уважліва, то ў ёй заўважны біблейскі маштаб: «Калі ж прыйдзе Сын Чалавечы ў славе Сваёй і ўсе святыя Анёлы з Ім, тады сядзе на троне славы Сваёй, і збяруцца перад Ім усе народы; і аддзеліць адных ад другіх, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў; і паставіць авечак праваруч ад сябе, а казлоў — леваруч» (Евангелле ад Матфея, раздзел 25, вершы 31–33).

Для таго, каб аддзяліць сучасных авечак ад казлоў, і існуюць выбары. Механізм гэты груваскі і спажывае шмат рэсурсаў. У Беларусі яго эфектыўнасць знаходзіцца ў прамой залежнасці ад сілы ўлады. Прыгадаем «ліхія 90-я» з іх разгулам дэмакратыі. Хто за каго хацеў, той за таго і галасаваў, а многія да таго расперазаліся, што наогул адмаўляліся выконваць свой грамадзянскі абавязак.

Адпаведна электарату паводзілі сябе і работнікі ўчастковых выбарчых камісій. Яны лічылі галасы па факце, што рэгулярна прыводзіла да адмены вынікаў галасавання з-за нізкай яўкі. На шчасце, усё гэта ў мінулым.

Неспадзяванкі, зразумела, перыядычна здараюцца. Самая вядомая адбылася ў 2012 годзе ў Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе №36, па якой у якасці кандыдата ўлады ў Палату прадстаўнікоў балатаваўся памочнік АП Ігар Пракапенка. Аднак у заканадаўчы рай яго не пусцілі грахі, і без пяці хвілін дэпутат напярэдадні галасавання быў арыштаваны ў межах справы аб кватэрных махінацыях у Гомельскім УКБ.

Здавалася б, у яго апанента, вылучэнца ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргея Мельнікава, верагоднасць быць абраным наблізілася да 100%. Але ж не! Вы не паверыце, але сваё слова нечакана сказаў электарат: 43,8% выбаршчыкаў адмовіліся ад выканання свайго грамадзянскага абавязку, а 81,1% ад тых, хто прыняў удзел у галасаванні, прагаласавалі супраць усіх, што і варта было чакаць у сувязі з адсутнасцю «правільнага» кандыдата. Такі вось узровень грамадзянскай адказнасці. Умеем жа, калі хочам, дагадзіць начальству!

**Якая глыбокая думка!**

Даследчыкам, якія вывучаюць беларускую мадэль, пашанцавала. Прычыну гэтага шанцавання лёгка зразумець, калі прыгадаць прыказку: «Язык мой — вораг мой». Усе мы не без граху, і схільнасць казаць лішняе — адзін з грахоў. Да гэтага нас часам падштурхоўваюць завышаная канцэнтрацыя алкаголю ў крыві або наяўнасць у кампаніі прыгожай жанчыны.

Але АП — асобны выпадак. Чвэрць стагоддзя знаходжання на пасадзе, якая не прадугледжвае наяўнасці апанентаў, не прайшла б бясследна і для чалавека па прыродзе нясмелага ды сарамлівага. Што ўжо казаць пра тыповага халерыка...

Прывяду адно з апошніх яго адкрыццяў: *«У нас Канстытуцыя не пад жанчыну. І ў нас грамадства не саспела для таго, каб галасаваць за жанчыну. Потым, у нас — не Літва. Там прэзідэнт, была Даля Грыбаўскайтэ, прыйшла, паўсміхалася, пасядзела і пайшла. Ні за што не адказвае, таму што там парламенцкая рэспубліка. У нас — не. Прэзідэнт будзе мужык, я ў гэтым абсалютна перакананы»* (29 траўня 2020 года падчас наведвання Мінскага трактарнага завода).

Мова ёсць дом быцця. Такім чынам, за словамі стаіць карціна свету, сістэма каштоўнасцяў таго, хто гаворыць. Параўноўваць жа парламент з гаварыльняй схільны практычна ўсе архітэктары ўладных вертыкаляў. Гісторыя ведае шмат падобных прыкладаў.

Між іншым, першая беларуская Канстытуцыя, якая не прадугледжвае мужыка ў якасці прэзідэнта,

***(працяг на стар. 4)***

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

# ЦІ ГОРШЫ БАБАРЫКА ЗА ЛУКАШЭНКУ?

**Сам па сабе факт, што ў крытычны момант беларускай гісторыі пэўная частка нацыянальна арыентаваных сілаў аказалася па адзін бок барыкад з рэжымам Лукашэнкі супраць большасьці грамадзтва — цікавы фэномэн.**

Зянон Пазьняк чарговым разам прайшоўся па Віктару Бабарыку, а таксама Валеру Цапкалу, раскрытыкаваў тэзу «Абы не Лукашэнка». Раней ён катэгарычна заявіў, што «на сёньняшні дзень Бабарыка ёсьць патэнцыйна больш шкодны вораг беларускай нацыі, чым Лукашэнка». І калі меркаваць па дыскусіях у Фэйсбуку, у такога пункту гледжаньня нямала прыхільнікаў.

Дарэчы, менавіта такі мэсыдж прапануе і дзейная ўлада. Лукашэнка выступае ў вобразе абаронцы незалежнасьці, абвінавачваючы сваіх апанэнтаў, што яны расейскія агенты. Невыпадкова міністар замежных спраў Уладзімер Макей высока ацаніў пазыцыю Зянона Пазьняка.

Паколькі Віктара Бабарыку, хутчэй за ўсё, не зарэгіструюць кандыдатам у прэзыдэнты, то, думаю, у практычным пляне гэтая тэма праз кароткі час стане неактуальнай. Але сам па сабе факт, што ў крытычны момант беларускай гісторыі пэўная частка нацыянальна арыентаваных сілаў аказалася па адзін бок барыкад з рэжымам Лукашэнкі супраць большасьці грамадзтва — цікавы фэномэн, які заслугоўвае сур'ёзнага аналізу. Не прэтэндуючы на яго, прапаную некаторыя развагі.

Што насамрэч пагражае незалежнасьці Беларусі? Для значнай часткі палітызаванай публікі адказ відавочны: канечне, Расея.

Але я б гэты адказ сфармуляваў трохі інакш. Галоўная пагроза незалежнасьці палягае ва ўнутранай слабасьці дзяржавы, якой карыстаецца Расея.

Слабасьць жа вынікае найперш зь неэфэктыўнай эканомікі, дэфэктыўнасьці беларускай сацыяльнай мадэлі. З гэтай прычыны беларускім уладам даводзіцца ўвесь час вымольваць у Расеі льготныя цэны на газ і нафту, што дае падставы Маскве для моцнага ціску на Беларусь. Вось цяпер урад ліхаманкава вырашае праблему, дзе пазычыць валюты, каб сплаціць замежны доўг. А крэдыторы, як вядома, выстаўляюць умовы, што абмяжоўвае сувэрэнітэт краіны.

Затым — глыбокі раскол, востры ўнутраны канфлікт, які цяпер, падчас выбарчай кампаніі выплюхнуўся на паверхню, таксама спараджае ўнутраную слабасьць дзяржавы. (Тут я пагаджуся зь Яўгенам Прэйгерманам.)

Нарэшце, слабая нацыянальная ідэнтыфікацыя беларускага соцыюму дае спажыву для праекту «русского мира». (Дарэчы, тут я ня згодзен зь Віктарам Бабарыкам, што спачатку трэба ўмацаваць эканоміку, а ўсё астатняе — потым. Гэтыя пытаньні трэба вырашаць паралельна).

Усе гэтыя праблемы — наступствы палітыкі рэжыму Лукашэнкі. І пакуль ён ва ўладзе, вырашыць іх немагчыма.

Асноўная юрыдычная падстава для прымушэньня Расеяй Беларусі да інтэграцыі — дамова аб «саюзнай дзяржаве». Нагадаю, хто забыў: яе падпісаў Лукашэнка ў 1999 годзе. На парадку дня беларуска-расейскіх перамоваў цяпер 31 «дарожная мапа» па эканамічнай інтэграцыі. Узгоднена 27 ці 28 зь іх. 31-я мапа прадугледжвае пераход на адзіную валюту, стварэньне наднацыянальных органаў улады. Гэта ўсім вядомыя факты, але нехта пра іх ужо забыўся.

А Віктар Бабарыка якраз прапануе стварыць эфэктыўную эканамічную мадэль, здольную абысьціся без расейскіх ільготаў. Да таго ж ён вельмі скептычна паставіўся да праекту «саюзнай дзяржавы».

Акрамя таго, ня ўлічваецца такая акалічнасьць. Адхіліць Лукашэнку ад улады магчыма толькі ў выніку народнай рэвалюцыі. А пасьля рэвалюцыі гэта будзе зусім іншая краіна, хто б там ні стаў прэзыдэнтам. Дарэчы, Бабарыка прапануе вярнуцца да Канстытуцыі 1994 году. І нацыянальна-дэмакратычныя сілы (як і іншыя) нарэшце атрымаюць права голасу, у іх зьявіцца рэальны ўплыў на прыняцьце палітычных рашэньняў.

Падчас сёлетняй выбарчай кампаніі мы назіраем цікавы парадокс. Гэтая прэзыдэнцкая кампанія, здаецца першая ў беларускай гісторыі (хіба што можна параўнаць з 2015 годам), калі ўмяшаньне вонкавых сілаў у справы Беларусі мінімальнае. І Расея, і Захад нібы кажуць: мы даём беларусам самім вырашаць свой лёс.

Аднак, нягледзячы на гэта, з розных палітычных флянгаў робяцца вялікія намаганьні, каб штучна сканструяваць «руку Масквы». Спачатку Лукашэнка абвінавачвае Расею, што яна падтрымлівае ягоных апанэнтаў. З другога боку, частка нацыянальна-арыентаваных сілаў таксама назвала Бабарыку агентам Масквы.

То бок атрымліваецца, што часткі палітычнай клясы Беларусі неяк нават няўтульна ад таго, што ніхто ня ўмешваецца, што беларусаў пакінулі сам-насам са сваімі праблемамі. Маўляў, як гэта палітычны працэс у Беларусі можа адбывацца без удзелу Расеі? Гэта ж немагчыма сабе ўявіць, такога ня можа быць!

Вось такі расеецэнтрызм беларускай палітызаванай публікі адлюстроўвае вялікі комплекс нацыянальнай, дзяржаўнай непаўнавартасьці беларускага соцыюму.

І яшчэ. Чвэрць стагодзьдзя, як у Беларусі зьнікла рэальная палітыка. Зьявілася цэлае пакаленьне людзей, якія не разумеюць, што гэта такое. Адсюль такая дзіўная пазыцыя: калі няма ідэальнага кандыдата, то няхай застаецца Лукашэнка. А людзі, якія жывуць у краінах з разьвітым палітычным жыцьцём, разумеюць, што ідэальных палітыкаў і ідэальнай сытуацыі не бывае. Рэальная палітыка — гэта пастаянны кампраміс.

Думкі, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**Валер Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

*(пачатак на стар. №3)*

не перашкодзіла ў студзені 1994 года зняць Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савета. У 1996 годзе Асноўны закон падкарэктавалі. З тых часоў мінулі 24 гады. І за што ж наш «мужык» хоць раз адказаў? Можа, пра гэта варта пацікавіцца ў родных Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара?

Але вернемся на Мінскі трактарны завод: *«Канкурэнцыя па вашай прадукцыі каласальная. Задача адна — якасць. Гэта галоўнае пытанне нашай машынабудаўнічай краіны, і перш за ўсё МТЗ. Вось адзіная мая просьба і жорсткае патрабаванне да вас усіх»*.

Якая глыбокая думка! Самі трактарабудаўнікі да такога ўзроўню абагульнення падняцца не змаглі б, а тым больш аформіць яго ў выглядзе просьбы і адначасова жорсткага патрабавання. Не мужыкі!

Што ўжо тут казаць пра «бабаў», чые канстытуцыйныя паўнамоцтвы не ідуць далей за магчымасць прыйсці, паўсміхацца і пасядзець. І, тым не менш, у 2018 годзе Літва па ВУП на душу насельніцтва па парытэце пакупніцкай здольнасці аказалася на 38-м месцы ($34 597), а Беларусь — на 65-м ($ 19 941). Ці ёсць сэнс за такое істотнае адставанне спытаць з нашага «мужыка»? Я лічу, што ёсць.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

СЛАБАК

# НЕРЭГІСТРАЦЫЯ БАБАРЫКІ. ЛУКАШЭНКА ПАКАЗАЎ УСІМ, ШТО СПУЖАЎСЯ

**Сэнсацыі не адбылося. Віктара Бабарыку не зарэгістравалі. Тут хіба можна зьвярнуць увагу на вельмі сумнеўныя падставы для адмовы.**

Маўляў, ён не ўказаў даходы, нажытыя злачынным шляхам. Гэтыя высновы ЦВК грунтаваліся на папярэдняй інфармацыі сьледчых органаў. Праігнаравалі прынцып прэзумпцыі невінаватасьці; тое, што злачынства любога грамадзяніна можа прызнаць толькі суд. А тое, што ўдзел супрацоўнікаў «Белгазпрамбанку» ў ініцыятыўнай групе Бабарыкі расцанілі як дапамогу замежнай дзяржавы, увогуле ўвойдзе ў падручнікі юрыспрудэнцыі як прававы кур'ёз.

Уласна, сёньняшняе рашэньне ЦВК цалкам выцякала з той стратэгіі, якую выбрала кіроўная каманда. З моманту арышту Бабарыкі іншага рашэньня проста быць не магло. Пасадзіць галоўнага канкурэнта за краты і пры гэтым пакінуць яго ў выбарчым бюлетэні было б дзіўным і нелягічным рашэньнем. Бо дзеля чаго? Каб умацаваць легітымнасьць перамогі Лукашэнкі? Дык гэтая легітымнасьць парушана арыштам Бабарыкі. Пасадзіць у турму галоўнага канкурэнта — гэта большы ўдар па легітымнасьці, чым ягоная нерэгістрацыя.

Тады што азначала заява Лукашэнкі 12 чэрвеня пра будучы лёс Віктара Бабарыкі: «Я хачу, каб ён трапіў на выбары... Вязьнем сумленьня мы яго ня зробім»? Гэта сьведчыць пра тое, што рашэньні кіроўнай каманды прымаліся па ходу кампаніі, як толькі станавіўся больш зразумелым маштаб пагрозы.

І ўжо зусім не лягічна было б рэгістраваць Віктара Бабарыку пасьля таго, як забракавалі подпісы Валера Цапкалы. Бо тады ўсе галасы прыхільнікаў апошняга перайшлі б да фаварыта кампаніі, то бок да Бабарыкі.

Да таго ж можна меркаваць, што пасьля арышту Бабарыкі і інтэнсіўнай дыскрэдытацыі яго дзяржаўнымі мэдыя, ягоная папулярнасьць, наадварот, узрасла. Бо запрацаваў чыньнік сымпатыі да ахвяры ўладнага самавольства. То бок эфэкт атрымаўся адваротным. У выніку іншых варыянтаў, акрамя як выкінуць Бабарыку з выбарчага працэсу, у Лукашэнкі не засталося.

Быў, праўда, такі рызыкоўны варыянт: пакінуць Бабарыку ў бюлетэнях, а стаўку зрабіць на выбарчую машыну, якая за чвэрць стагодзьдзя навучылася даваць патрэбны вынік.

Але тут ёсьць адна праблема. У пачатку кампаніі журналісты пыталі Віктара Бабарыку: маўляў, на што вы спадзяецеся? Хіба ня ведаеце, што ў Беларусі выбараў няма? Той адказаў, што калі мяне падтрымае 80%, то ўся выбарчая машына паламаецца і ЦВК будзе вымушана даваць рэальныя вынікі галасаваньня.

Лукашэнка спужаўся, што Бабарыка мае рацыю, і ня стаў праводзіць такога экспэрымэнту, — ён вялікі перастрахоўшчык.

Якія высновы? Лукашэнка ахвяраваў вобразам моцнага палітыка, які не баіцца канкурэнцыі. Такі вобраз ён дэманстраваў раней. Цяпер ён паказвае ўсім — грамадзтву, намэнклятуры, замежным суб'ектам — што ён слабак, што ягоная легітымнасьць сумнеўная. І што ўся гэтая інфармацыя пра рэйтынг у 76% — хлусьня. Бо з такім рэйтынгам можна было б рэгістраваць усіх.

Цяпер мяняюцца і спосабы легітымацыі, і прырода палітычнага рэжыму, і шмат што іншае.

**Валер Карбалевіч**
**Радыё Свабода**

УЛАДА ТАКАЯ

# ЛУКАШЭНКА ЎЖО НАВАТ НЕ СПРАБУЕ СПАДАБАЦЦА БОЛЬШАСЬЦІ

**Доктар палітычных навук, дырэктар інстытуту «Палітычная сфэра» Андрэй Казакевіч разважае, чаму ў гэтай кампаніі Лукашэнка ня мае ніякай станоўчай праграмы і пэрспэктывы для краіны, тлумачыць, чаму ўладам не спадабалася нават памяркоўная лібэралізацыя і яны яе згарнулі, і заяўляе, што ўсё, над чым працавалі апошнія 6 гадоў у адносінах з Захадам, цалкам зьнішчана.**

***— Улада відавочна выбрала сілавы шлях у гэтай прэзыдэнцкай кампаніі — але наколькі гэта было непазьбежна? Фактычна, мяркую, напачатку плян быў зусім іншы — каб выбары прайшлі спакойна і «элегантна». Але давялося прыбегнуць да старых, добра знаёмых рэпрэсіяў. Можа, улада пераацаніла пагрозу для сябе і занадта жорстка адрэагавала? Ці сапраўды пагроза ёй настолькі сур'ёзная?***

— Тут два моманты. Па-першае, мы назіраем правал на шмат якіх кірунках унутры самой сыстэмы, у тым ліку па лініі спэцслужбаў. Адыход ад лібэралізацыі пачаўся ў Беларусі прыкладна два гады таму. Рубяжом былі мясцовыя выбары ў 2018-м. Сыстэма ўсё больш закрывалася. У выніку яны загадзя не пралічылі ні Ціханоўскага, ні Бабарыку, інфармацыйна цалкам перасталі трапляць у настрої насельніцтва.

Па-другое, улада проста лянуецца гуляць больш складана. У мяне такое адчуваньне, калі я гляджу на выступы Лукашэнкі: раней ён спрабаваў спадабацца большасьці, выбіраў фразы, рыторыку — а цяпер неяк лянуецца працаваць у гэтым кірунку, падладжвацца пад аўдыторыю. Стаўка была зроблена проста на сілу і рэпрэсіі. Хоць было шмат іншых мэханізмаў, якія можна было выкарыстоўваць цягам гэтай кампаніі.

І гэта будзе мець відавочныя нэгатыўныя наступствы, якіх сыстэма мусіла б пазьбягаць усімі сродкамі.

***— Ужо на выбарах у 2015 годзе Лукашэнка не даваў папулісцкіх і фінансавых абяцаньняў, ужо тады абыходзілася без раздачы падарункаў. Але цяпер нейкі іншы этап — няма ня толькі абяцаньняў, няма ніякай праграмы, не прадстаўлена ніякая пэрспэктыва для краіны ў выпадку пераабраньня.***

— Так. Але ў 2015 годзе былі іншая сытуацыя. Была Ўкраіна, і на гэтым фоне наяўнасьць нейкай «стабільнасьці» ўжо была значным пасланьнем для насельніцтва. Па-другое, былі істотныя чаканьні зьменаў, калі не рэформаў. І зьмены, у прынцыпе, адбываліся, асабліва ў зьнешняй палітыцы. Былі чаканьні эканамічных рэформаў, лібэралізацыі. То бок тады быў дастаткова выразны мэсыдж, атмасфэра ў краіне была зусім іншая.

Чаму цяпер улады нават не спрабуюць сфармуляваць нейкую візію на будучыню? Акрамя як збоем сыстэмы, я гэта не магу патлумачыць. Гэта трэба было рабіць загадзя, некалькі месяцаў таму. Гэтага не адбываецца, і гэта відавочная памылка. Не было нават прэзыдэнцкага пасланьня ці Ўсебеларускага Сходу.

Усё зводзіцца да формулы — «калі вы хочаце, каб была нейкая стабільнасьць, то ў вас ёсьць я. А калі хочаце хаосу і крыві — паспрабуйце сказаць „не"». Вельмі нелягічная пазыцыя, небясьпечная.

***— Паўтараецца амаль у кожным выступе Лукашэнкі пра «страшныя 90-я», пра пагрозу незалежнасьці, пра замежных лялькаводаў. Няма ніводнага пазытыўнага лёзунгу, ніводнай станоўчай праграмы дзеяньняў, пэрспэктывы. Абараніць тое, што ёсьць — адзіная фактычна праграма. Гэтым можна прывабіць выбарнікаў? Ці гэта проста часовая рыторыка?***

— У мяне такое адчуваньне, што гэтая рыторыка ўжо незваротная. Калі гэта спрацуе і можна будзе ўтрымаць уладу толькі сілавымі захадамі, без электаральнай падтрымкі — дык усё, навошта тады нешта прыдумляць, каб заваёўваць сымпатыі большасьці? Тым больш што ніякіх новых ідэяў няма — ні ў атачэньні прэзыдэнта, ні ў яго самога. Працуе толькі адна, «абарончая» лінія. Падаецца, што «рэформы» і «лібэралізацыя» ўладай успрымаюцца як асноўная прычына падзеньня рэйтынгу ды іншых складанасьцяў, прычына таго, што пачалі зьяўляцца альтэрнатыўныя кандыдаты. Зараз вельмі вялікая верагоднасьць, што сыстэма проста закрыецца ў сваім кокане і перастане думаць пра тое, што трэба фармуляваць нейкае бачаньне будучыні.

***— Лукашэнка палохае рэформамі, маўляў, у выніку адны наб'юць кішэні, іншыя пачнуць хадзіць з пустымі каструлямі. Фактычна ён прызнае, што пры ягоным кіраваньні істотных зьменаў ня будзе — «у нас і так усё добра, трэба захаваць тое, што ёсьць». Якая частка насельніцтва Беларусі можа на сёньня задавальняцца статус-кво?***

— Лукашэнка ня раз ужо палохае вяртаньнем у 90-я. Але цяпер сытуацыя такая, што многія адчуваюць сябе ўжо ў 90-х. Асабліва ў рэгіёнах, з гэтымі заробкамі па 300 рублёў. І многія беларусы ўжо лічаць, што «горш ніяк ня будзе». І гэтая група вельмі павялічылася за апошнія паўгода.

Колькі людзей застаюцца стабільным электаратам Лукашэнкі на дадзены момант? Гэта тыя, хто баіцца замены ўлады, хто, можа, і шмат чым незадаволены, але баіцца альтэрнатывы. Паводле ўскосных дадзеных, гэтая група — недзе 20–25 працэнтаў. Вядома, гэта ўсё прыблізна, вядома, шмат залежыць ад таго, каму мы проціпастаўляем Лукашэнку, якому кандыдату.

***— Улада зусім ня думае пра наступствы сваіх цяперашніх дзеяньняў ці яна лічыць, што галоўнае — неяк скончыць з гэтымі выбарамі, забясьпечыць патрэбны вынік, а потым ужо разьбірацца з наступствамі «па меры паступленьня»? Аднак ужо можна казаць, што вынікам выбараў стане сур'ёзнае пагаршэньне адносінаў з Захадам, ажно да ізаляцыі, больш нахабныя паводзіны Масквы і, адпаведна, больш рэзкія сутычкі зь ёй па многіх пытаньнях.***

— Усё складаецца вельмі кепска. Парадокс сытуацыі ў тым, што гэта ўсё вельмі лёгка прадбачыць, настолькі гэта відавочна. Крокі ўлады падчас гэтай кампаніі адназначна прывядуць да пэўнай замежнапалітычнай ізаляцыі, прынамсі часовай. Невядома, якія формы набудзе рэакцыя Захаду — ці санкцыі, ці проста абмежаваньне супрацоўніцтва, — але ўсё ідзе да таго, што гэтая рэакцыя вымушаная быць дастаткова жорсткай.

Тое, над чым працавалі апошнія 6 гадоў у адносінах з Захадам, цалкам зьнішчана. І гэта будзе мець вельмі сур'ёзныя эканамічныя наступствы. Нармалізацыя стасункаў з Захадам магла прынесьці доступ да пэўных фінансавых рэсурсаў. Цяпер усё гэта ўскладняецца, гэтыя страты будуць адчувальнымі.

Нанесена глыбокая шкода бізнэс-клімату, спрыяльнаму асяродзьдзю для прыцягненьня інвэстыцыяў у краіну. Вельмі прыкметным званком стала ўвядзеньне часовай адміністрацыі ў «Белгазпрамбанку».

*(скарочана)*

**Віталь Цыганкоў**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 16.07.2020 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.